З Новым годам і вясёлых Калядаў!

**АДНА ЗЯМЛЯ**

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

1 – 7 СТУДЗЕНЯ 1999 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 10000 РУБЛЁЎ
№1 (193)

ВІЛЕЙКА

## Дэпутаты выбралі "галаву"

Прайшла сесія аб'яднанага райсавета. Старшынёй райвыканкома дэпутаты зацвердзілі **Івана Шнітоўскага**. А галавой савета выбралі **Мікалая Мандрыка**. Наметнікам старшыні райсавета стала **Ганна Шэпелева.**

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

СМАРГОНЬ

## Калядныя наваселлі

Каля 20 тысяч квадратных метраў жылля ўведзена ў эксплутацыю ў горадзе і раёне за мінулы год.

Напярэдадні навагодніх святаў дзяржаўная камісія прыняла ў эксплуатацыю 28– і 36–кватэрныя жылыя дамы ЖБК–10 і ЖБК–7. Адзін дом здадзены ў вёсцы Асіпаны калгаса "Кушляны", два атрымалі вяскоўцы ў калгасе імя Неўскага, адзін – у калгасе "Савецкая Беларусь".

У вёсках раёна ўведзена ў эксплуатацыю звыш за тысячу кадратных метраў жылля, тым не менш жылля не хапае – востры дэфіцыт кадраў масавых прафесій, асабліва трактарыстаў і даярак, зведваюць калгасы "Дружба народаў", "Праўда", "Расія" і іншыя гаспадаркі.

*Павел МАКЛЮК.*

ВАЛОЖЫН

## Тона "Дружбы" кожны дзень

У сямействе сыроў масласырзавода прыбаўленне. Пачаўся выпуск новага плаўленага сыру "Дружба". Магутнасці – 1 тона за змену. Смак і прыгожае афармленне новай прадукцыі забяспечваюць высокі попыт, асабліва ў магазінах сталіцы.

*Таццяна АЛЯКСЕЕВА.*

СМАРГОНЬ

## І бочка ў гаспадарцы патрэбная

Паколькі жадаючых купіць гаспадарку былой вайсковай часткі 19207 не знаходзіцца, райвыканкам перадаў яе на баланс лясгаса.

А вось 17 сталёвых ёмістасцяў для захоўвання ГЗМ коштам у 4081 тысячу рублёў кожная размеркаваныя паміж аграфірмай "Вілія" і саўгасамі "Смаргонскі" і "Рассвет". Першая атрымае іх тры, саўгасы – па 7.

Хаця ёмістасцям па 30 год, яны прыйдуцца гаспадаркам даспадобы, бо дзе–дзе, а ў абаронным комплексе былога Саюза ўсё рабілася на славу.

*Павел МАКЛЮК.*

ВАЛОЖЫН

## Еўраплітка з аблвыканкома

30 мільёнаў рублёў выдзеліў Мінскі аблвыканком на заканчэнне добраўпарадкавання помніка загінуўшым воінам, што на цэнтральнай плошчы. На гэтыя сродкі ўжо закупленая еўраплітка.

*Таццяна АЛЯКСЕЕВА.*

СМАРГОНЬ

## Свет не ведае тэмпаў такіх

На 456% да такога ж перыяду мінулага года выраслі аб'ёмы вытворчасці прамысловай прадукцыі на заводзе аптычнага станкабудавання ў лістападзе. Яшчэ адзін год напружанай работы, і прадпрыемства трывала стане на ногі.

Яго помпы для трактароў усіх мадыфікацый, этыкеціровачныя аўтаматы для вытворцаў лікёра–гарэлачных вырабаў, вакуумныя ўстаноўкі карыстаюцца трывалым попытам, асабліва ў Расіі. Вось і нядаўна расійская дэлегацыя прамыслоўцаў засведчыла, што этыкеціровачныя аўтаматы ў вытворцаў нашай усходняй суседкі знаходзяцца па–за канкурэнцыяй: іх вельмі чакаюць на прадпрыемствах "Расалка" (расійскія алкагольныя напоі).

*Павел МАКЛЮК.*

АФІЦЫЙНА

## Пятніцу лепш перанесці, а ў панядзелак справу не пачынаюць

Згодна з пастановай Савета Міністраў, пераносяцца рабочыя з пятніцы 8 студзеня на суботу 16 студзеня, з панядзелка 19 красавіка на суботу 17 красавіка.

ПАПУЛЯРНАСЦЬ

## У Новы Год – З Зайцам



Работнікі ЗАГСаў рэгіёна сцвярджаюць, што найбольш папулярнымі імёнамі немаўлятак летась былі: Аляксандр, Максім, Уладзімір, Дзяніс, Дыяна, Таццяна, Вікторыя, Кацярына.

Няшмат дадалося ў нас імёнаў Ульяна, Ксенія, Яўген.

Што Год Зайца прынясе?

З НОЫМ ГОДАМ!

## Старшыня жадае шчасця



МАЛАДЗЕЧНА. Старшыня гарвыканкома **Станіслаў Татарыновіч** у гутарцы з супрацоўнікам «РГ» павіншаваў жыхароў рэгіёна са святам:

– Здароўя, дабрабыту, добрых здабыткаў, цеплыні ў душах. Каб у гэты год Заяц не рабіў новыя эканамічныя скачкі.

Журналістам ён пажадаў пісаць пра ўсе сферы дзейнасці чалавека – прычым, пад рознымі вугламі.

ФОТА АНДРЭЯ КАСКІНА.

ПАРАЛЕЛІ

## Марына Карбальо і мухамор



*Гэта, хутчэй, не дзяўчынка ў касцюме Мухамора, а сеньярыта з палатна мастака мінулага.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

МАЛАДЗЕЧНА. Другакласніца СШ №7 Марына Карбальо другі па ліку Новы год сустракае на Беларусі. Дагэтуль яна жыла на Кубе.

У навагоднім касцюме мухамора на ранішніку дзяўчынка пачувала сябе спачатку няёмка. Грыбы для Кубы, усё ж, рэч экзатычная.

– Летась я ў школу прыйшла ў касцюме Бабы Ёжкі, – расказвае Марына, – праўда, тады я ўвасабляла добрую бабульку.

Некалі Марына выдатна размаўляла па–іспанску. На жаль, у горадзе няма магчымасці захаваць мову. Сёння дзяўчынка памятае толькі асобныя словы: плато – талерка, перо – сабака...

– Я хачу, – гаворыць яна, – каб на Новы год мне падарылі дом Барбі з пластыку. У мяне тры лялькі Барбі. Мама шые ім вопраткі. Лялькам жыць на ложку, на паліцы нязручна. А наогул, мая мара – займець чатыры мяхі слодычаў. Каб там былі, акрамя цукерак ды шакаладак, пернікі, чупа–чупсы, грэцкія арэхі. Я б усіх частавала. Сяброўак у мяне шмат: тры школы на Кубе, адна ў горадзе.

Марына памятае, як з татам і з мамай Новы год сустракалі на Кубе. У кватэры ўпрыгожылі пластмасавую ёлку. Маці выключыла святло і ціхенька паклала пад ёлку шакаладку, кнігу і канструктар. На Кубе не бывае снегу. Толькі на Беларусі Марына ўпершыню ўбачыла і дакранулася да яго. У двары з сяброўкамі ляпіла снежную бабу (дагэтуль не ведала, што ёсць такі казачны персанаж).

– А мы паставілі дома елачку, – радуецца Марына, – на жаль, летась дзядуля разбіў мой самы любімы каляровы шарык. Але я яму даравала. У мяне яшчэ ёсць любімыя ёлачныя цацкі – зорачка, Санта Клаус і Дзед Мароз. Калі засынаю, бачу сон, што гуляю па вуліцы. Раптоўна ў небе – салют. А маці ў гэты час зноў нешта хавае для мяне пад ёлачку.

*Васіль САВІЦКІ.*

ПА ПУБЛІКАЦЫЯХ "РГ"

## Чым запомніўся год мінулы?

***Успомнім некаторыя матэрыялы «РГ», якія прыцягнулі ўвагу чытачоў. Матэрыялы, на якія паступіла найбольш водгукаў жыхароў рэгіёна і не толькі.***

**Графства былога дэпутата.** У Маладзечне па вул. Вялікасельскай былы дэпутат ВС БССР, слесар завода "Спадарожнік" Віктар Стрэльчанка з камянёў узводзіць сабе дом.

**Палітыкай і не пахне.** У Астраўцы адбыўся суд над двума бардамі Алегам Мізулам з Гродна і Андрэем Мельнікавым з Гомеля. Абодва ішлі па вядомым 88 артыкуле КК – незаконны пераход мяжы па папярэдняй змове.

**Шымон Перэс пабываў на радзіме**. Былы прэм'ер–міністр Ізраіля часцяком заязджае на Валожыншчыну.

**"Усплывае" мэбля графа Чапскага, караля піва.** Тарэза Шымановіч з вёскі Навасёлкі, што на Ашмяншчыне, перадала музею мэблю графа.

**Майка ад Грыбаедава пайшла за 10 долараў**. Маладзечанскі лёгкаатлет "засвяціўся" на канале НТВ. У Падольску за 24 гадзіны ён прабег 221 км 340 м.

**Мы ўсё прыдумалі з галавы.** Настаўнікі з Вілейскай школы–інтэрната распрацавалі сваю праграму навучання для дзяцей з парушэннямі мовы. У Міністэрстве адукацыі праграму зацвердзілі.

**Танней узарваць!** Будучыня Дома Культуры ў Маладзечне невядомая. Даўгабуд разбальваецца.

**"Мы хацелі абчысціць трупы".** Тры дзяўчынкі з Куранца вырашылі "зарабіць" – пусціць цягнік пад адхон. Пасля публікацыі ў нашай газеце цікавасць да здарэння праявілі цэнтральныя газеты Мінска і Масквы.

**У вайсковай часці пад Маладзечнам** застрэліўся салдат–кантрактнік.

Паміж Вілейкай і Маладзечнам **на трасе згарэў маршрутны аўтобус.**

У Астраўцы **п'яны ўрач сеў за руль свайго БМВ** і наехаў на двухгадовага хлопчыка.

Наша калега з Вілейкі **Наталля Валынец ездзіла ў Маскву на "Поле цудаў"**.

*Аддзел іфармацыі.*

НАВАГОДНЯЕ АПЫТАННЕ ВІЛЕЙЧАН

# Дарогі, якія мы выбіраем...

***Дзе працавалі да таго, як прыйшлі сюды? Не жадаеце ў новым годзе вярнуцца на ранейшае месца?***



***Вольга КАЛІНІНА, прадавец:***

— Працавала поварам у дзіцячым садку. Цяпер у дэкрэтным водпуску. Падрабляю часова ў прадпрымальніка. Работа падабаецца. Хачу вярнуцца ў дзіцячы сад і хачу гандляваць.



***Алеся ЗАКРЭЎСКАЯ, прадавец:***

— Вучылася на юрыста, але ім не стала. Уладкавалася прадаўцом. Работа прадаўца падабаецца, але каб не на вуліцы. Хацелася б працягваць вучобу і стаць высокааплачваемым спецыялістам.




***Аляксей КАМІНСКІ, аператар фоталабараторыі «Kodak»:***

— 24 гады адпрацаваў на «Зеніце», а цяпер работа, якая мне падабаецца, знайшла мяне, бо фота я займаюся з 1962 года. На «Зеніт» ні за што не вярнуся, шкадую, што раней адтуль не пайшоў.



***Лідзія КАМІСАРЧУК, кіраўнік групы бухгалтэрыі ГарАА:***

— Шмат гадоў працавала на «Зеніце». Работа на камп'ютэры вельмі падабаецца і я з задавальненнем працавала б на камп'ютэры на «Зеніце». Вярнулася б, калі б плацілі нармальную, прыстойную зарплату.



***Валянціна ТЫШКОЎСКАЯ, беспрацоўная:***

— Працавала ў гандлі, але пайшла з работы, каб даглядаць дзяцей. Шматдзетная я. Скарацілі мужа, хворы. На шэсць чалавек у сям'і — ніводнай зарплаты. Хачу працаваць і атрымліваць прыстойную зарплату, каб забяспечыць сям'ю.



***Мая ДАМАШЫЦ, прадавец магазіна «Паўлінка»:***

— Працавала афіцыянткай у «Эліце», а цяпер працую ў новым маленькім магазіне «Паўлінка». Заходзьце да нас, вілейчане. Работа мне вельмі падабаецца, назад — ні за што.



***Сяргей ДЗЯМІДАЎ, інжынер-радыёлаг лясгаса:***

— Працаваў на «Зеніце» інжынерам. Работа ў лясгасе падабаецца, але згадзіўся б на любую іншую высокааплачваемую, у тым ліку, і на «Зеніце».



***Таццяна МАНДРЫК, прадавец:***

— Працую ў бальніцы, а тут падзарабляю, гандлюю булачкамі. Каб больш плацілі - тут бы не была. Трэба неяк грошы зарабляць.



***Лена ГЕРАСІМОВІЧ, прадавец:***

— Была беспрацоўнай. З дэкрэтнага водпуску ўладкавалась прадаўцом у прадпрымальніка. Работа вельмі падабаецца, іншай не хачу.

ФОТААПЫТАННЕ П.А.ПАРАЦЫ.

СЕКТАР СПОРТУ

# Браты Макоўскія ад «А» да «Я»

***У Новы год "сектар спорту" робіць чытачам сапраўдны падарунак – сёння ў нас у гасцях браты Макоўскія. Яны не так часта з'яўляюцца ў Маладзечне і не згаджаюцца размаўляць з прэсай. Але для "РГ" футбалісты кіеўскага "Дынама" зрабілі выключэнне, за што ім вялікі дзякуй.***

### А

**Адзенне**

*Міхаіл:* Люблю стыльна апранацца. Падабаецца маладзёжны стыль.

*Уладзімір:* Я не люблю яркія колеры. Адзенне павінна быць простым і зручным.

**Аўтамабіль**

*Міхаіл:* Любімая марка – "БМВ". Гэтая машына ў мяне ёсць.

*Уладзімір*: Падабаецца "Мерседэс", але маю "Форд–Скорпіё".

**Аўтограф**

*(разам)*: Мы даем іх часта.

### Б

**Балельшчыкі**

*(разам):* Яны ўсюды аднолькавыя.

**Бацькі**

*Міхаіл:* Самыя любімыя людзі.

*Уладзімір:* Гэта ўсё.

### В

**Від спорту**

*Міхаіл:* Акрамя футбола, падабаюцца баскетбол, валейбол, хакей. Вельмі люблю шашкі.

*Уладзімір:* Усе гульнявыя віды.

**Водпуск**

*(разам):* Гэта сустрэчы з сябрамі. Галоўнае – не сядзець ля тэлевізара. Мы любім культурна–масавыя мерапрыемствы.

### Г

**Гонар**

*Міхаіл:* Я не ганаруся сабой.

*Уладзімір:* А я ганаруся.

**Грошы**

*Міхаіл:* Самае галоўнае – здароўе. Будзе яно – будуць і "паперкі".

*Уладзімір:* Для кожнага чалавека яны маюць пэўнае значэнне. Што грошы для мяне? Нават не ведаю. Без іх жа таксама нельга.

### Д

**Дзяўчаты**

(разам): На стасункі з імі застаецца мала часу.

### Е

**Ева**

(разам пасля доўгага разважання): Такой, як яна, мы не сустракалі.

### Ж

**Жаданне**

(разам): Сустрэць Новы год дома.

### З

**Заўвагі**

*Міхаіл:* У "Дынама" шмат заўваг.

*Уладзімір:* У першую чаргу, там вучаць жыць.




## *Дасье "РГ"*

## Міхаіл і Уладзімір Макоўскія

Нарадзіліся 23.04.77 у Маладзечне. Рост – 188 см, вага – 80 кілаграмаў. Пачыналі гуляць у маладзечанскай ДЮСШ. Першы трэнер – **Анатоль Берасneў**. Гулялі ў камандах: "Маладзечна" – 1994/95; "Дынама" (Мінск) – 1996/97. Цяпер абараняюць колеры кіеўскага "Дынама". Уладальнікі сярэбраных медалёў чэмпіянату Беларусі 1996 года, чэмпіёны Беларусі 1997. У 1996 годзе Уладзімір быў прызнаны лепшым футбалістам краіны. Ён згуляў за зборную 16 матчаў, забіў 4 галы.

ФОТА З АРХІВА СЯМ"І МАКОЎСКІХ.

### І

**Імя**

*Міхаіл:* Любімых няма.

*Уладзімір* (смяецца): Любімыя – Адам і Ева. Калі сур'ёзна, то ўсе імёны добрыя.

### К

**Каханне**

*Міхаіл:* Улюбёнасць прыходзіць да мяне кожны вечар. А каханне... Не было часу, каб пакахаць па–сапраўдным. (Праз паўзу) Я палюбіў, як толькі ўбачыў маму.

*Уладзімір:* Яшчэ рана гаварыць пра гэта. Навошта спяшацца?

**Кніга**

*(разам)*: Любімай няма.

**Кумір**

*Міхаіл:* Няма.

*Уладзімір:* Ёсць шмат добрых футбалістаў. Хочацца быць падобным і на таго, і на іншага. Але які ёсць, такі і ёсць.

### Л

**Лёс**

*Міхаіл:* Пакуль ён у мяне шчаслівы.

*Уладзімір* (спявае): Ах, лёс, мой лёс... На гэты момант ён у мяне шчаслівы.

**Лянота**

*(разам):* Гэтае пачуццё знаёмае. Асабліва ў канцы сезона, калі стамляешся і фізічна, і маральна.

### М

**Мара**

*Міхаіл:* Быць першым.

*Уладзімір:* Каб усё было. (Міхаіл пасміхнуўся: І табе за гэта нічога не было)

### Н

**Надзея**

*Міхаіл:* Трапіць у асноўны склад каманды.

*Уладзімір:* Жыць не горш, чым цяпер.

**Незаселены востраў**

*Міхаіл:* Лепш там не бываць.

*Уладзімір:* Аднаму цяжка будзе. Без людзей жыць немагчыма.

### П

**Партнёр**

*Міхаіл:* Футбол – гульня калектыўная. На полі ўсе добрыя партнёры.

*Уладзімір*: Мне зручней гуляць з Валянцінам Бялькевічам. У ФК "Маладзечна" агульную мову лягчэй знаходзіў з Віталем Казяком. Мікалай Абрамовіч таксама добры партнёр (смяюцца).

**Першы матч за "Дынама" (Кіеў)**

*Міхаіл:* Гэта была гульня з "Шахцёрам".

*Уладзімір:* Мой дэбют у гэтай камандзе адбыўся 20 студзеня, калі мы гулялі таварыскі матч з "Вердэрам". Першая афіцыйная гульня была пасля пачатку чэмпіянату Украіны (ён стартаваў 13 лютага).

**Прыкметы**

*Міхаіл:* Я веру ў лічбу 13.

*Уладзімір:* У прыкметы веру, але іх няма.

### Р

**Разважанні**

*Міхаіл:* Цяпер усе думкі толькі пра футбол.

*Уладзімір:* Яшчэ няма над чым разважаць. На першым месцы стаіць работа.

### С

**Сябры**

*(разам):* У Маладзечне – Андрэй Мілеўскі. А ў Кіеве, у асноўным, толькі знаёмыя.

### Т

**Траўмы**

*Міхаіл:* Яны здараюцца не часта.

*Уладзімір:* Сур'ёзных не было (пагрукаў тры разы па стале – усё ж ёсць прыкмета!).

### У

**Урок**

*Міхаіл:* Любімыя ў школе – выяўленчае мастацтва (вельмі добра маляваў) і фізкультура. Не любіў фізіку. А вучыліся ма на 4 і 5.

*Уладзімір:* Падабаліся спевы. У мяне быў другі голас. Маці спачатку хацела нас аддаць у музычную школу. Я граў бы н фартэпіяна, а Міша на гармоніку. Нелюбімым урокам была пачатковая ваенная падрыхтоўка.

### Ф

**Фільм**

*Міхаіл:* Усе жахі.

*Уладзімір:* Рускія камедыі.

### Х

**Хобі**

*Міхаіл:* Катацца на аўтамабілі.

*Уладзімір* (з усмешкай): Сядзець побач. (Сур'ёзна) Чытаць газеты. Якія? Спартыўныя выданні.

### Ц

**Царква**

*(разам)*: Мы праваслаўнай веры. У царкву заходзім толькі для таго, каб паставіць свечкі. Ніколі нічога не просім у бога, бо трэба верыць у свае сілы.

### Ч

**Чалавечыя якасці**

*Міхаіл:* Цаню дабрыню і душу.

*Уладзімір:* Галоўнае, каб чалавек быў просты.

### Ш

**Шанцы "Дынама" (Кіеў) у матчах з "Рэалам" у 1/4 фіналу Лігі Чэмпіёнаў**

*Міхаіл:* 50х50.

*Уладзімір:* 70х30 на нашу карысць. Мы будзем гуляць толькі на перамогу.

**Школа**

*(разам):* Мы хадзілі ў СШ №2. Добрыя былі школьныя гады. Тады нам не хацелася вучыцца, а цяпер хочацца.

**Шчодрасць**

*(разам):* Мы шчодрыя ў меру.

### Э

**Эрудыцыя**

*Міхаіл:* Я эрудыраваны ў спартыўным плане.

*Уладзімір:* Магу падтрымаць любую размову.

### Ю

**"Ювентус"**

*Міхаіл:* Супер–клуб.

*Уладзімір:* Каманда. Як і "Дынама" (Кіеў), "Спартак", "Маладзечна".

### Я

**Я – хто ён?**

*Міхаіл:* Футбаліст ФК "Дынама" (Кіеў).

*Уладзімір:* Просты спартсмен.

Такая атрымалася размова з Макоўскімі, сціплыя, прывабныя людзі. Браты віншуюць чытачоў "РГ" з Новым годам, а «РГ» жадае ім і надалей радаваць балельшчыкаў сваёй гульнёй.

***Юлія ВАНСЛАЎ.***

# ФК "Маладзечна".

На жаль, новага няма. Усе спасылаюцца на святы.

– Нявызначанасць. Рыхтуемся да сустрэчы Новага года, – заявілі ў адзін голас **Ю. Лукін і У. Галубко.**

Будзем спадзявацца, што яны добра пасвяткуюць і ў наступным чэмпіянаце будуць плённа працаваць. А самае галоўнае – небезвынікова.

***Юлія ВАНСЛАЎ.***

## ГАРАСКОП 4 – 10 СТУДЗЕНЯ

**АВЕН (21.03–20.04)**
Добрыя дні 4–7. Будзь крыху дабрэйшы і мякчэйшы ў адносінах да навакольных.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Добрыя дні 6–8, важны – 5. Табе выпадзе шанц палепшыць матэрыяльнае становішча.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Добрыя дні 8–10, важны – 4. Старайся набыць тыя станоўчыя рысы, якіх табе не хапае.

**РАК (22.06–23.07)**
Старайся пазбягаць рызыкі. Большасць сваіх сіл трэба ўкласці ў працу.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Знайдзі абаронцу ў аўтарытэтным чалавеку.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Важны дзень 10. Магчымыя канфлікты з сябрамі.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Кепскія дні 4–6, важны – 9. Імкніся да новых ведаў і знаёмся з цікавымі людзьмі.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Кепскія дні 6–8. Лепшы спосаб рэалізацыі – самастойнасць.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Кепскія дні 8–10. Узгадай пра сваіх бацькоў і родных.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Важны дзень 6. Працягвай рух па абраным шляху.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Важны дзень 5. Плануй сваё жыццё на будучы год.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Добрыя дні 4, 5. Бяры ўдзел у вырашэнні значных калектыўных пытанняў.

*МОДА–99*

# Плошча для пацалункаў

***МАЛАДЗЕЧНА. У цырульніка Святланы ТОЛКАЧ дома жыве зайчаня. Таму на наступны год Святлана мае поўнае права рабіць прагнозы:***

– Модныя будуць стрыжкі класічныя, на аснове "карэ". Не сыдзе яшчэ і "авангард" – рознакаляровае меліраванне. Здаецца, надоўга ўвайшла ў моду стрыжка "новых беларусаў" – спартыўная канадка.

**– У прафесійным плане мінулы год быў карысны?**

– Разнастайны. Распаўсюджанне атрымала стрыжка "пад Рэгіну Дубавіцкую" з "Аншлага". На працягу дзесяцігоддзяў трымаюцца "бокс", "паўбокс", "паж".

**– Нейкія кур'ёзы былі?**

– Іх заўсёды багата. Бывае, ад нашых рук кліент засынае ў крэсле.

**– Што параіце лысым?**

– Няхай не камплексуюць. Навука сцвярджае, што лысыя – самыя разумныя. Мы часта жартуем: лысіна – гэта вялікая плошча для пацалункаў! Таму ў каханні ім больш шанцуе.

***Васіль САВІЦКІ.***



*Добра стрыгчы – глядзець у адным напрамку з кліентам.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОА.

*БЕНЗІН–98–99*

# На спірт?!

Два тыдні назіраецца ўстойлівая тэндэнцыя да знікнення бензіну і саляркі з АЗС рэгіёна. Асабліва для прыватнікаў.

Цэны на паліва моцна вар'іруюцца. Калі тыдзень таму ў Вілейцы давалі АІ–92 па 23000 (ад раніцы чарга складала каля 50 машын), то ў Мінску на "фінскай" запраўцы (выезд на Маладзечна) 76 – 29000, 92 – 35000, 95 – 50000. Салярка ў Вілейцы – 18000, у Ждановічах (на АЗС па вуліцы Ціміразева) – 30000. Там, дзе бензіну няма зусім (Мінск), з'яўляецца "левы". Яго кошт $5 за 10 літраў. У Вілейцы 76 бензін мяняюць на самагонку – 10 на 1,5 л.

Бензін яшчэ і дрэннай якасці. Рухавік дэтаніруе, а свечы пакрываюцца сажай. Знаёмы навучыўся вызначаць якасць бензіну па паху. Адразу паціраe бензін у далонях, а потым нюхае – у добрага пах больш тонкі (менш араматычных вуглевадародаў).

Вадзіцелі гавораць, што ў хуткім часе бензін будзе каштаваць каля 70000. Таму "прыватнікі" ператвараюць свае гаражы ў міні–склады ГЗМ.

Мяркую, адно з выйсцяў са становішча для Беларусі (дзе няма ні нафты, ні долараў) – перавод работы рухавікоў з бензіну на спірт. Такі досвед ёсць у Бразіліі. У Беларусі хіба лянівы не робіць спірт, толькі ў Вілейскім раёне два спіртзаводы.

**P.S.** Бензін можна набыць, калі купіць па безнаяўным разліку "таблетку" (так называюць электронную картку) з вялікім лімітам на дзень (200–300 літраў). Па безнаяўным разліку пакуль што бензін ёсць.

***Ігар КІЦІКАЎ.***

СМАРГОНЬ. Калі літоўскі аўтааматар на ўласнай машыне заправіць на Смаргонскай АЗС бак свайго аўтамабіля ды каністры ў запас, закупіць тут і перавязе праз мяжу танныя беларускія прадукты, то можа мець за адзін рэйс навар прыкладна ў 100 долараў.

За дзень з горада вывозіцца не менш як 2 тоны прадуктаў.

***Павел МАКЛЮК.***

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 23.12 | 30.12 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 260 | **270** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | – | – |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | – | – |
| Селядзец | 1 кг | 250 | **250** |
| Рыс | 1 кг | 130 | **135** |
| Цукар | 1 кг | – | **78–89** |
| Грэчка | 1 кг | 110 | **110** |
| Алей | 1 л | 220 | **230** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | – | – |
| Маянэз | 250 г | 52–60 | **55** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 290 | **290** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 90 | **90** |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 65 | **64** |
| Лімоны | 1кг | 270 | **275** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 120–180 | **180** |
| Масла | 1 кг | 340 | **340** |
| Тварог | 1 кг | 90 | **90** |
| Малако | 1,5 л | 30 | **40** |
| Бульба | 1 вядро | 110 | **110** |
| Яйкі курыныя | 1дзес. | 125 | **180** |

*ГАНДАЛЬ*

# Першая ластаўка ў раёне

СМАРГОНЬ. Дзяржаўны гандаль тут у заняпадзе: абвешчаны чыноўнікамі ад прылаўка, ён не здольны на роўных канкурыраваць з фірменным і прыватным. Новыя формы работы ўсё больш паказваюць сваю жыццядзейнасць. Напярэдадні Новага Года гандлёвае камерцыйнае прадпрыемства "Жамчужына" прэзентавала першы ў раёне дробнааптовы склад–магазін харчовых тавараў.

"Жамчужыну" і яе дырэктара **Галіну Кузьму** добра ведаюць беларускія пастаўшчыкі і таваравытворцы. У свой час яна арганізавала ў горадзе гандлёвае прадпрыемства "ГУМ", а нядаўна – "Жамчужыну".

Склад–магазін заключыў дагаворы на пастаўку прадуктаў з ТАА "Памакс", "Майонік" і "Еўрагандаль", СП "Каларыт–Ліда", Віцебскім, Мінскім, Гродзенскім лікёра–гарэлачнымі заводамі, Лідскім піўзаводам, ААТ "Слодыч", "Белтытунькантракт" і "Чырвоны харчавік", іншымі беларускімі вытворцамі, падтрымлівае цесныя кантакты з таваравытворцамі Ашмянскага, Астравецкага, Вілейскага, Маладзечанскага раёнаў. На склад–магазін без папярэдняй аплаты паступаюць па цане вытворцаў алкагольныя і безалкагольныя напіткі (у тым ліку піва), кандытарскія вырабы, розныя кансервы, тытунь, іншыя тавары.

А смаргонскія прадпрымальнікі, камерцыйныя структуры атрымалі добрую магчымасць купляць тут дробнымі партыямі – ад 50 мінімальных зарплат – усё тое, што падабаецца ім і пакупнікам. Гандлёвыя нацэнкі невялікія – 5–6%. Кошт тавараў прывязаны да долара, таму былі нават выпадкі паніжэння адпускных цэн.

***Павел МАКЛЮК.***

*СУВЯЗЬ*

# Тэлефануйце ў Смаргонь

СМАРГОНЬ. За 11 месяцаў вузел электрасувязі устанавіў 1780 новых кватэрных тэлефонаў, у тым ліку 1574 у горадзе і 206 – у вёсках. Расшыраны АТС в. Вішнева і Лылойцяў па 50 нумароў кожная.

Задаволеныя заявы грамадзян з мікрараёна агрэгатнага завода ( закрытая чарга па 1997 год), у цэнтральнай частцы (па студзень 1998 года), у мікрараёне "Усходні" (па 1989 год).

Ва «Усходнім» у 1999–м плануецца расшырэнне АТС–5 на 1000 нумароў. У прыватным сектары сёлета дадаткова тэлефанізавана 9 вуліц у горадзе і 6 вёсак. У горадзе "незакрытымі" засталіся 3500 заяў, у вёсках – 1800.

***Павел МАКЛЮК.***

*ЗДАРЭННІ*

# Разбудзіў бабулю

ВІЛЕЙКА. 72–гадовая жанчына, што жыве ў сваім доме па вуліцы Савецкай, у 3 гадзіны ночы прачнулася ад грукату.

Вугал яе залы крыху нахіліўся. Жанчына выйшла на вуліцу і ўбачыла машыну маркі БМВ, якая ўехала амаль што ў хату. 25–гадовы вадзіцель быў моцна п'яны, не справіўся з кіраваннем, знес дарожны ўказальнік і такім чынам разбудзіў бабулю.

***Марына ТАЧЫНСКАЯ.***

*ПАЛЯВАННЕ*

# Навагодні стол без заячыны



*Бывай, зброя – пайду на рыбалку!*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

МАЛАДЗЕЧНА. Паляўнічы **Віктар Крыўкін** не тое, што верыць у гараскопы, хутчэй, кіруецца інтуіцыяй. Таму на паляванне за зайцам у апошнія дні года свядома не пайшоў. Падстрэліш зайца – увесь год шанцаваць не будзе. Лепш перачакаць. 15 год са стрэльбай, як ні кажы, досвед.

Віктару даводзілася ўдзельнічаць у паляванні на дзіка, птушку, ваўка. Аднак хітрэйшай за зайца жывёлы, быццам бы, няма. Гэта толькі гавораць, што ў "касых" душа ў пяты хаваецца, калі з чалавекам яны сутыкаюцца. Заяц заўсёды пралічвае шляхі адыходу. Ведае, куды бегчы, за што хавацца. Якім бы спрактыкаваным паляўнічы ні быў, вушасты часцяком яго падманвае. Бо для зайца гамлетаўскае пытанне "быць ці не быць" каштуе жыцця. Бывае, у метры ад зайца можна прайсці і не прыкмеціць яго. Ну, а калі паляўнічы спакусіўся выйсці на звярка па ягоных жа слядах, цяжка прыйдзецца. Той можа нарабіць столькі слядоў – стомішся сачыць, не тое, што па іх ісці.

Віктар Крыўкін пад Новы год паедзе на рыбалку.

– Трэба даць зайцу ягоны год сустрэць, – жартуе паляўнічы.– А потым ужо будзем з ім разбірацца.

У Віктара падстрэленых ім вушастых і так пад сотню.

***Васіль САВІЦКІ.***

*З ЛЁГКАЙ ПАРАЙ*

# Як пражыць да 100

***ВІЛЕЙКА. Калісьці ў горадзе былі дзве грамадскія лазні (у народзе – "старая" і "новая". Не ведаю, хто вырашыў пабудаваць "новую" на балоце, але, мабыць, яму на давалі спакою лаўры Пятра I, які пабудаваў Санкт–Пецярбург на балоцістым беразе Нявы.***

На Беларусі існуе павер'е, што ў лазні жыве чорт–лазнік. Можа, гэты лазнік не ўжыўся з кікімарай, якая жыве ў балоце? А можа, усё ж такі не трэба было будаваць лазню на балоце? Так ці інакш, а ў новай ужо даўно ніхто не парыцца.

Што тычыцца "старой", то яна сапраўды старая. Яшчэ да Другой сусветнай вайны пачалося яе будаўніцтва. Але будынак прызначаўся не пад лазню, а пад цэх для вырабу скур. Вайна спыніла будаўніцтва. Старажылы расказваюць, што ў 1943 годзе немцы ўзнавілі яго – рабочай сілай былі італьянскія салдаты, якія згубілі давер пасля Сталінградскай бітвы. У 1949 лазня адчынілася, але да гэтага часу верна служыць вілейчанам.

Са старой лазняй цесна звязаная назва Лазневае возера. Раней у яго спускаліся сцёкавыя воды. У 70–х гадах лазню падключылі да цэнтральнай каналізацыйнай сістэмы, а Лазневае возера вырашылі пачысціць і добраўпарадкаваць. Адразу пачалі спускаць ваду. Ужо на заўтра дзесяткі рыбакоў (сярод іх і я) вылоўлівалі з гразі карасёў. Самы вялікі, якога давялося ўбачыць, быў з невялікага парсючка і рохкаў амаль аднолькава. Акрамя рыбы, у гразі знайшлі трохлінейку, гранату і шмат патронаў. Як яны трапілі ў возера, мы ўжо ніколі не даведаемся. Потым гразь вычысцілі, змянілі форму вадаёма. Цяпер ён нагадвае падкову. Набралі ваду і запусцілі карпаў. Вясной і летам ад самага ранку тут сядзяць рыбакі з вудамі, а сярод жоўтых кубышак красуецца пара лебедзяў.

У наступным годзе лазні спаўняецца 50. Паўстагоддзя яна мые, парыць і лечыць вілейчан. Можа, і яны хоць бы раз за гэты час падлячылі "старую", а яна дапамагла б вілейчанам дажыць да яе векавога юбілею?

***Ігар КІЦІКАЎ.***

*СЛОВА ПАМЯЦІ*

# Памёр Артур Дубаў

Ёсць імёны, без якіх немагчыма ўявіць жыццё нашых гарадоў. Для Вілейкі адно з такіх імёнаў - імя Артура Дубава.



Артур Навумавіч Дубаў нарадзіўся 19 красавіка 1936 года ў Гомелі. У дзевятнаццаць год заканчвае ў родным горадзе дарожна–будаўнічы тэхнікум і ў 1955 годзе прыязджае ў Вілейку, пачынае працаваць тэхнікам у машынна–дарожнай станцыі. Здольнага і прагнага да працы спецыяліста заўважаюць, даручыўшы ў 1958 годзе турботную пасаду прараба ў дарожна–будаўнічым раёне №13. У сям'і Артура і Марыі Дубавых падрастае першынец Алег. А ў год, калі нарадзіўся другі сын Уладзімір, Дубаў узначаліў дарожна–эксплуатацыйнае упраўленнне №162.

З гэтага часу пачалося развіццё адной з лепшых у рэспубліцы дарожна–эксплуатацыйнай арганізацыі. Дубаў працаваў літаральна дні і ночы, забываючыся часам вырашаць нешта асабістае. Дзякуючы яго арганізацыйным здольнасцям, быў створаны моцны і здольны на многае калектыў, якім кіруе з 1991 года пераемнік і паплечнік Дубава Арнольд Партноў. І нездарма дарогі на Вілейшчыне выклікаюць сёння, у не самыя лепшыя часы, добрую зайздрасць і калег–дарожнікаў, і аўтамабілістаў. А калі чалавек працаўладкоўваецца ў ДРБУ–162, то і сёння скажа: пайшоў працаваць да Дубава.

ДРБУ–162 адказвае цяпер за самую працяглую ў Беларусі сетку мясцовых дарог– 1080 кіламетраў, 171 кіламетр рэспубліканскіх.

У 1991 годзе, калі Масква залізвала свае раны пасля путчу, Дубавы вырашылі свой лёс. За тыдзень перад ад'ездам Марыя Міхайлаўна, настаўніца рускай славеснасці, шчыра прызналася мне: баімся антысемітызму. За акіянам жа чакалі дзеці са сваімі сем'ямі.

Шчымела сэрца па Гомелі і Вілейцы, па знаёмых і калегах, чуйна ўспрымала кожную вестачку з бацькаўшчыны. А пачвара антысеметызму ў суседняй з намі Расіі перастала быць прывідам. Што набылі мы, а што страцілі?

23 снежня ў далёкім Нью–Ёрку перастала біцца сэрца нашага земляка Артура Дубава.

***Аляксандр МАНЦЭВІЧ.***

